ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ АСОБНЫ НУМАР **40** ГРОШ.




Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ**, **Віленская вул., № 12, кв. 6**
«МАЛАНКА»

**№ 9**
**15 КРАСАВІКА**
**1926 г.**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгоду 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт.



Досыць сварак, досыць спрэчак!
Досыць нам нязгода хмар...
Ўсе старыя і малыя
Ўсе пад родны свой штандар!

Хай, над нашымі палямі
Згода вечная жыве
Ўсіх да згоднай, братняй працы
Беларусаў пазаве!

Хай маланкі ўсьцяж страляюць,
Б'юць агнямі пяруны
На тых, што над намі крачуць,
Як над трупам груганы.

Хай „Маланка" смале-пале.
Хай нязгода прападзе; —
Зажывем тагды мы вольна
**Ў Беларускай Грамадзе!**

*Маланка.*



# Ляпей восень, як вясна...

**Скшынскі:** (*Міністар загранічн. справаў*).

Нашто тае мне фатыгі
Было ехаць аж да Лігі,
Слухаць слоўцы, бачыць мігі, —
Усё ня варта нават фігі
А ня толькі тэй фатыгі!

Думаў я, як дадуць месца
У Лізе добранька расьсесца,
Завяду я тары-бары,
Сьвет пушчу я ў скокі-чары...
Ой ёй-ёй прыгожы мары!

Але немец той *пся-юха*
Усё разьвеяў, ўсё разьдзьмухаў,
Паслаў нас усіх да дому, —
Ня даў сесьці ён нікому...
Толькі вось набіў аскому!

На вясну была надзея
Сьціснуць немца-ліхадзея, —
На яго ўжо толькі сьвіснуць;
Пасьля „меншасьці“ прыцісьнуць, —
Каб ня сьмелі нават пісьнуць!

Падвяла вясна вось, браце,
Трэба восені чакаці
Ліга зноў ужо зьбярэцца, —
Мо' тагды штось давядзецца,
Што з іх носу застанецца!

**Зьдзехоўскі** (*Міністар Скарбу*).

Ужо ня верацъ ў мае цноты,
Зноў ляціць наш польскі злоты...
Ой, мне цяжка, ой, мне нудна!
З гэткім скарбам жыці трудна
І на сэрцы так паскудна!

Рана, ўвечары, ці ўночы
Лезе мне бюджэт у вочы, —
Я спакою з ім ня маю,
Што рабіць і сам ня знаю...
Я ўжо восені чакаю!

Бо надзея ўся на Бога,
Згіне мо' тагды трывога,
Як сялянін намалоце,
Ды падаткі нам заплоце...
*Тшэба чэкаць, скарбе, злоце!*

Даўся мне у знакі злоты,
Сто̂лькі, Божа, з ім клапоту
*І ошчэндзаш, рэдукуеш,*
А палёгкі ўсё ня чуеш...
Чаго скарбе наш пустуеш!

Ой хутчэй прышла-бы восень,
Нацярпеліся ўжо досі;
Прыдзе ласка можа з неба,
Можа будзе многа хлеба...
Ураджаю ждаці трэба!

**Земэнцкі** (*Міністар Працы*).

Ой, ня *вытрваю* я згіну,
Жывы лягу ў дамавіну,
Чаму, Божа, мілы, злоты
Для безработнае галоты
Не дасі якой работы!?

Вечна ходзяць, вечна страшаць,
Кулакамі пад нос гасяць,
Хочуць працы, хлеба-солі.
Не здаволіш іх ніколі...
Усё давай ім і даволі!

Пэпээс я вельмі спрытны,
Хітры, лоўкі, зьвінны, скрытны
Умеў работнікаў лавіці
У пэпээсаўскія ніці...
Чым-ж цяпер іх ачмуціці!?

Дам паліцыі работу —
Безработную галоту
Разганяці бязьлітосна...
Ой, мне цяжка, ой, мне млосна...
*Ценжка пшышла для мне вёсна*!

Пакуль што, цярпеці трэба, —
Увосень будзе болей хлеба...
Будуць новыя выборы
Й абяцанак *злоты* горы...
Вось загуляем на прасторы!

Я. М.



14Н//3765

Крапіва.

## Ціт заводзіць новы быт.

Паглядзеце вы на Ціта —
Вынес ён у хлеў карыта
І падсьвінкаў і сьвіней
Выгнаў з хаты і з сяней.

Ўзяўшы дзетак на падмогу,
Палажыў сяк-так падлогу —
Не на жарты, мусіць, Ціт
Стаў заводзіць новы быт.

На ўсю зіму, вось на гэту,
Ціт наш выпісаў газэту —
Хоча ведаць, як відаць,
Што на сьвеце дзе чуваць.

Перад дочкамі й сынамі
Ціт ня лаецца „па маме“,
Ня лупцуе жонкі Ціт —
Ён заводзіць новы быт.

. . . . . . . . . . . . .

Не з апошніх Ціт і ў полі,
Перайшоў на многапольле —
Сее рэпу й буракі...
А растуць-жа! — як гаршкі.

Быў узгорак, так як бубен,
Але Ціт пасеяў лубін,
Дык (ці веры вы дасьце?),
Як чарот, жытцо расьце.

Тодар, Ян, Язэп, Мікіта!
Чым вы горшыя за Ціта?
Дык пачнеце-ж, як і Ціт,
Вы заводзіць новы быт!

Крапіва.

## Як „Антэк“ стрэў „Вельканоц“.

Антэк ходзіць чуць ня голы,
Але заўжды ён вясёлы.
І „Вельканоц“ стрэў „папанскі“—
Быў пірог і быў „пазнанскі“.

Антэк сьпіртў налупіўся,
Потым з жонкаю схапіўся
І гуляў з ёй „кракавяку“,
Потым поўзаў Антэк ракам,
Потым лёг, нагамі дрыгаў,
Потым зьездзіў двойчы ў „рыгу“,
А назаўтра ўстаў з пахмельля,—
Праклінае Антэк „зельле“;
Ўсё баліць — нібы пабіта,
Лоб, як волавам наліты,
Хлеў сьвіны зрабіўся з рота —
Нават есьці неахвота.

Пуста, моташна у хаце,
Малака няма дзіцяці,
Ні скарынкі няма хлеба, —
Жабраваць, ня йначай, трэба.
Дык затое скажа кожны:
„Антэк“, „гжэчны“ і набожны—
„Стрэў „Вельканоц“, як *належы*,
„У падранай хоць адзежы,
„Але еў і піў „папанскі“ —
„Быў пірог і сьпірт „пазнанскі“.



## Я „рэдактар“ Тодар Коўскі — (Вярні).

(Быўшы міністар).

Я „рэдактар“ Тодар Коўскі.
Вярні, Божа, лад Маскоўскі—
Хай зноў царска сьвішча куля
І нагайка, — дай хоць круля
Польшчы! — хочуць манархісты
І я — беларус нячысты!
...Помню слаўна царска „ўрэмя“—
Ня то, што беларуска племя.
Пры царох я быў багаты
З гандлю на дамы і хаты.
А тут грошыкі зьвяліся...
Каб Вайсковая Камісія
Хоць даўжэйшы час трымала —
Я-б ня страціў столькі сала;
Сёньня маю недахваты
І жывот менш трыбухаты...
Напляваць мне на „Грамаду“!
Я „Бел-Словам“ дам ім раду; —
Напляваць на санатора
Мне У. Ласа! — Вось я скора
Ў суд падам, дый хутка, мігам
Адамшчу яго дзьвём фігам —
Выкручу зноў, залатоўкі,
Трэ-ж круціці! —

*З-пад Мігоўкі.*

## Душа.

Ў школе ксёндз-вучыцель
Да дзетак гавора:
Пра сьвет Божы, пра ўсе цуды,
На зямлі і моры.
Пра Адама, як то Бог сам
Выляпіў із гліны
І ўдунуў душу бясьсьмертну
Дзесь да серадзіны.
Аб'ясьніўшы, як належа,
Дзяцей так пытае:
— А ну, дзеці пра душу штось
Хто з вас добра знае?
Ўсе маўчалі. Толькі з лаўкі
Падняўся Рыгоры:
— Я вось бачыў, прашу ксёндза,—
Сьмела ён гавора.
— Каго бачыў?
— Тую душу...
— Што?!
— На свае вочы! —
Бачыў ў ксёндза я̆ля хаты
Мінуўшае ночы.
Татка можа прысягнуці,
Што дакладна чулі,
Як праходзілі да дому
Позна ад Нафтулі:
Душа выйшла нібы з хаты,
Ў бель была прыбрана,
А ксёнд ветла ёй гавора
„Душанька кахана!..“
І паробак тое відзеў
Суседаў Тамашы
І бажыўся, што то пані
Вучыцелька наша...

**«Зиз»**

Я. Башкір.

## Жаночая любасьць.

Вярнуўся Хведар наш да дому
(Пад Пот-Артурам бедны быў)
Відаць ён быў крыху шчасьлівы:
Да хаты жыў-здароў прыбыў.

Мужчыны, бабы, нават дзеці
Усяк да Хведара ідзець;
Усе хочуць знаць, што чуць на сьвеце
І як „гапонец“ там жывець.

Як поп у цэркве Хведар правіць
Пра ўсе што бачыў і рабіў,
Дзе праўду скажа, дзе прыбавіць,
(Маніць прызнацца ён любіў).

Раты разявіўшы па вушы,
Салдата слухаюць усе.
Ўздыхаюць, плачуць бабскі душы, —
Ад сьлёз аж мокра у насе.

А як-жа мой там?.. уздыхае
Суседка плачучы ад гора,
Салдата Хведара пытае:
— Ці бачыў там майго Рыгора?

— Калі вось ўздумала пытацца!
(Салдат пачаў ёй адзывацца):
— Ужо даўно у Порт-Артуры
Пашылі боты, каб іх трасца,
„Гапонцы“ з Хведаравай скуры!

Учуўшы сумну вестку гэту
(Ці-ж было лёгка чуці ей!)
І жаль і злосьць ўзяла кабету
На сьвет, на Бога, на людзей.

— Каб скула ім! Такую скуру
Усю сабе парасшывалі
Чаму-ж і мне які ахлапак
З плячэй на боты ня прыслалі!?

Ці-ж ім ня ведама, што жонка
У хаце босай засталася?
На падашву-мо' была-б тонка,
На перады-ж якраз прышлася-б!

І на ўспамін, што так любіла
І па сумленьню з ім жыла,
Хоць боты добрыя-б знасіла...
Ах, каб крываўка іх ўзяла!..

## ХТО і ЯК СПА-




**Селянін**

Вясна. Пара ўжо селяніну
Ў плуг запрагчы сваю скаціну,
Але-ж вось, як стогне ён,
Пачаўшы з першых баразён

Калісь і сам быў дужы болей,
Так цяжка ня было ніколі
Конік некалі быў гладкі, —
Ды зьелі ўсё яму... падаткі



**Работнік**

Ані хлеба, ані солі,
Няма ў хаце яго болей.
Везработны — босы, голы,
Бяда, голад навакола.

Хвора жонка пролетара
Плача бедных дзетак пара,
Толькі сонейка адно
Ў яго глянула вакно.




**Пан**

За граніцу з капіталам
Паны едуць на вясну,
У „Монтэ-Карлё" валяць валам
Паражніць сваю машну.

Ўсё за грошы сабе купяць —
Рэчаносаў, лякаёў...
Хто-ж дарогу ім заступіць? —
Жыцьцё — рай для гультаёў.

## Адзін дзень майго рэдактарства

**(Праўдзіва з натуры).**

Сяджу ў рэдакцыі і спраўджаю рахункі. Кожная лічба, кожны нуль страшаць мяне горай паліцыянта, бо расход усьцяж расьце і расьце, а прыход затрымаўся на адной лічбе і стаіць бы мёртвы, ня хочучы, як польскі злоты, паднімацца ўгару.

Стук... стук... стук!..

— Вайдзеце!

— У мяне забегалі мурашкі па целе і пацямнела ў вачох.

— Калі не заплаціце ўсіх заляжаласьцяў, дык новага нумару друкаваць ня будзем, — ультыматыўна сказаў адміністратар друкарні.

Коратка і ясна...

Я пачаў маліць, прасіць, абяцаць, дакляраваць і трошку хлусіць, але сэрца адміністратара было, як няпрыступная крэпасьць, — ніякімі хітрыкамі ня можна было яго ўзяць.

— Пачакайце да першага; усё-ж да першага чакаюць; у каго-ж цяпер, перад першым, ёсьць грошы.

Адміністратар вышаў безнадзейна махнуўшы рукой, нават не разьвітаўшыся са мной.

Я нэрвова захадзіў па кватэры, думаючы ўсьцяж над адным найгалаўнейшым пытаньнем: скуль узяць грошы на „Маланку"? Перадумаў соткі розных магчымасьцяў, тысячы розных комбінацыяў, але ўсе былі ўтапічныя, нерэальныя.

„Маланка" — наша слаўная „Маланка", — наша радасьць, наша слава, пацеха, наша сіла, наша багацьце, наш вялікі культурны здабытак гіне, ня могучы ніяк пагадзіць праклятага расходу з прыходам.

Чаму?..

Ці-ж „Маланка" не падабаецца людзям?

Падабаецца! Ой-ёй, як падабаецца! Я яшчэ ня бачыў такога чалавека, які-б ганіў „Маланку", а з вёсак прыходзяць тысячы лістоў з падзякай для „Маланкі", але толькі лістоў, а ня грошай, бо нашы беларускія сяляне, інтэлігэнцыя, вучыцялі, паслы, сэнатары і наагул розныя дзеячы — народ вельмі скупы і з падпіскай не сьпяшаюцца. Прывычка карыстаць з дармаўшчынкі глыбока запусьціла свае карані.

Стук... стук... стук!..

— Калі ласка!

Увайшоў паштальён. Рухліва кінуў ён на стол пачак лістоў, газэтаў, „list polecony" з Амэрыкі і два пераводы на чатыры злотыя. Паглядзеў яшчэ раз у сваю торбу, сьціснуў плячмі і выйшаў.

Я сярдзіта адкінуў гэтыя чатыры злотыя, якія толькі дражнілі мяне сваей злыднасьцяй. Дрыжачымі рукамі ўзяўся я за амэрыканскі ліст, адкрыў, памацаў пальцамі, паглядзеў на сьвет, панюхаў, а нават лізнуў, але ліст лістом. Хоць-бы даляр, хоць-бы цэнцік забалтаўся ў ім. Чытаю:

> „Дарагія браты беларусы! Мы, вашы браты з-за далёкага акіяну, шлём Вам прывітаньне і падзяку за „Маланку", якую адтрымалі з старога краю. Яна нам вельмі падабалася. Сьмяяліся шчыра ад усей душы. Прысылайце, яшчэ і яшчэ, а таксама прысылайце майму брату і швагру, — вось іх адрэсы:"

Як на амэрыканцаў, дык вельмі стыдна. Атрымліваць дарма „Маланку" і прасіць яшчэ дарма для *брата і швагра* і... а ні слова ня ўспомніць аб падпісцы, — гэта сусім стыдна.

Бяру другі ліст з Радавай Беларусі:

# ТЫКАЕ ВЯСНУ.



**Вучань**

Вучням ўжо гуляці досі,
Бо экзамены на носе,
Ня жыцьцё, а проста мукі, —
Трэба браці кніжкі ў рукі.

Пэдагогі вельмі строгі,
Самі гнуцца з страху ногі,
„Рэжуць“ гостра, як нажом,
Валасы ўгару „яршом“.




**„Часовая Рада“**

Раней тысячы чатыры
Было злотых на ўсе дзіры,
А цяпер іх толькі дзьве
Ў „тымчасовэй“ галаве.

І спалохана кабета
Богу дзякуе й за гэта:
Безрабоцьце ўсюды, голь —
„Рада“ ўсё-ж яшчэ ня ноль.




**Беларускі журналісты**

Людзям радасьць, першы май,
А мне кажуць: „Адчыняй!“
Эх, ты, мамачка мая, —
Падазронны навет я.

Каб хто іншы, а ка-дет
*Не один двесяток лет...*
Ды такі ўжо цяпер час —
Wróg, bolszewik кожны з нас.

---

„Даражэнькі Рэдактар! Прымеце шчырую падзяку ад шчырага сына Беларусі. Ваша „Маланка“ зрабіла вялікі фурор. Мы ніколі не спадзяваліся, што вы там у Заходняй Беларусі маеце столькі духовае сілы, каб выпускаць гэтакую прыгожую „Маланку“. Слава Вам, бо вы папярэдзілі нас! Прысылайце, як мага болей экзэмпляраў, — мы будзем шырока распаўсюджаваць сярод нас, каб яе здаровы, сьмелы беларускі сьмех нёсься і ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі“... Вельмі прыгожа! Ой, як радасна! але... аб падпісцы а ні слова.

Ліст за лістом машынальна адкрываю я краёвыя лісты і ў іх усё тое самае, — гэтак дзіўна яны адзін да другога падобныя: Нараканьне на беднату, тысячы розных учуцьцяў, пажаданьняў, шчырай падзякі для „Маланкі“, а... аб грашах на падпіску хоць-бы хто словам заікнуўся. Усе просяць: *„прысылайце „Маланку“, а аб грашах не бядуйце, як заробім, дык прышлём“.*

Паміж гэтымі лістамі ёсьць нават вось якія кветкі:

„Пане Рэдакторжэ! — гэтак піша адзін урадовы вучыцель у państwowej мове. „Маланка“ сень сподобала. Пшысылайце венцэй. Я естэм з уродзэньня поэтом, а з заводу гуморыстом і могэн пану пшысылаць ружнэ вершыкі і жарцікі, гдыбым Шановны Пан Рэдактор мугл мне пшэсылаць по пеньць злотых за кажды верш і жарт“.

„Смашны жабе гарэх, ды зубоў Бог ня даў“... — прыпомнілася мне неяк з вершаў Бурачка. Кідаю ліст у кошык, бяру другі і чытаю:

„Пане Рэдактар! Я вельмі на вас узлаваўся за ваш некарэктны і дурны адказ, што мой верш: *„Бі ў рыла“* ня будзе друкавацца. Гэты верш мне вельмі падабаецца і павінен быць зьмешчаны ў „Маланцы“. Яшчэ вы пытаецеся аб грашах на падпіску, дык гэта мне выглядае вельмі сьмешна. У нас тут на вёсцы цэлымі пудамі прывозяць... розных польскіх газэтаў. Бяры колькі хочаш. Многія сяляне цяпер імі, перад сьвятам, сабе хаты выклеіваюць. Усе гэтыя газэты дарма даюць і паліцыя да нас не чапляецца. А вы за сваю газэту „Маланку“ нейкіх грошай захацелі. Ці ня стыдна вам, рэдактару беларусу трэбаваць грошай ад селяніна беларуса. Калі ня будзеце высылаць нам „Маланкі“ дарма, дык чытайце самі!

Хмарна, панура на сэрцы, як пануры сягоньяшні дзень...,

Дррррр! Дрр! — зазваніў тэлефон.

— Галё!

— Галё! Гэта я, Монвід. Паночку, пане рэдактар! Ці ня можна было-б авансік?!

— Вы-ж адтрымалі, а рысункаў не зрабілі.

— Калі мне Ваша тэма не падабалася, а свае я ня прыдумаў.

— Думайце хутчэй, бо рысункі трэба.

— Паночку, як з авансікам? Хоць трыццаць злоцікаў?!

— Ня дурэце галавы!

Захрыпеў і абарваўся тэлефон. Я сеў за стол і пачаў пісаць верш да нумару. Але скуль узяць гумар?! Скуль узяць настрой, натхненьне?!

Выйшаў на вуліцу. Дзіравыя камашы тапталі вясновую гразь, а за мной, як цень, неадступна йшоў ужо знаёмы мне ў твар «сышчык».

**Янка М.**

## Дарма.

— Пане войт! Прашу аб дазвол на збудаваньне сьвінушніка.

— Чаму-ж, можна!

— А колькі гэта будзе каштаваць?

— Дый нічога!.. Прыдзеш да мяне ўлетку бульбу абгорваць на дні тры...

К. Сьвет...

## Добра адказаў.

Здарылася неяк селяніну Янку піць барышы разам з панамі. Паны елі студзень (квашаніну) вільцамі, а Янка чакаў, чакаў што яму дадуць лыжку, бо вільцамі есьці ня ўмеў, але не дачакаўшыся пачаў браць з талеркі пальцамі.

— Ты, Янка, мусіць чалавек бывалы?! — хітра кальнуў яго адзін з паноў.

— А як-жа, колькі разоў здаралася бываць сярод паноў і сярод мужыкоў...

— А сярод сьвіней?

— Гэта толькі цяпер першы раз! — нядоўга думаючы адказаў Янка.

С-н-свой.

## Паясьніў.

Сын чытае газэту і, нічога не разьбіраючыся ў палітыцы, прыстае з рознымі пытаньнямі да бацькі, які заняты працай:

— Татка, а татка! Чаму гэта з Мэксыкі ксяндзоў гоняць?

— Бо мэксыканцы, мусіць, пекла не баяцца.

— А чаму Польшчу ў Лігу Народаў ня пушчаюць?

— А ці цябе, малога шкодніка, ўсюды пускаюць?!

## Здаровы язык.

Адміністрацыйная ўлада аднаго з нашых местаў наказала конфіскацыю кніжкі пад назовам: „Розум і Сумленьне“, дагледзеўшы ў ёй супярэчнасьць з кодэксам карным.

Камэндант пастарунку, даносячы па начальству аб тым, што на тэрыторыі яго пастарунку гэтае кніжкі не знашлося, паміж іншым, піша:

„Мэльдуен пану комісажові, жэ у нікого з околічных мешканцув розуму і суменьня не оказалосень.

К. Сьвет...

## Пабажыўся.

Было гэта ўлетку, якраз жалі аўсы. Вышаў Пракоп на двор уночы і відзіць, як нехта ідзе яго дваром і штосьці нясе за плечамі. Стаіць Пракоп прытаіўшыся, а злодзей штораз бліжэй зьбліжаецца да яго.

— Што ты нясеш? — пытае Пракоп.

— Авёс! — адказвае Дзяніс.

— А чый гэта авёс?

— Пабажыся, што нікому ня скажаш, тагды скажу, бо гэта сакрэт, — хітруе Дзяніс.

— Дальбо не скажу нікому!

— Ну і дурны ты Дзяніс, — гэта-ж твой авёс!..

Шкадаваў пасьля Дзяніс, але было ўжо позна.

*Т. Б.*

### ЧОРНАЯ ПЛЯМА.

— Чаму гэта на месячыку нейкая чорная пляма, быццам хто сядзіць там?

— А гэта, бачыш, варона спазьнілася на ноч у хвайняк, дык па дарозе заначавала на месяцы.

*Эс...*

### У КЛЯСЕ.

— Станкевіч! Сколькі за адзін раз можа зьесьці слонь?

— Пяць тысяч кіляграмаў, пане вучыцель.

— Колькі? Пяць тысяч?.. Ну, гэта гіпэрбола! (пераўвялічэньне).

— Гіпэрбола, пане вучыцель, у два разы болей зьесьць.

## Бальшавікі ўсё могуць!

На адной выстаўцы ў Радавай Украіне — ўбачыла старуха-сялянка вярблюда і крыкнула з абурэньнем:

— Кара боская з гэтымі бальшавікамі! — Глядзеце, што яны з каня зрабілі! Ніякага сораму ў іх няма!..

*Р—а.*

## Перад вясельлем.

*Ксёндз да маладой*: Ну, заўтра ваш шлюб. Ці вы добра прыгатаваліся да такой важнай рэчы?

*Маладая*: Але, ксёнжа дабрадзею, маці напякла хлеба і пірагоў, а бацька закалоў парсючка і купіў гарэлкі.

*Г. Л.*

## „Самаўрад“.

Войта выбралі-прагналі:
— Беларус, нельга! — сказалі
У радзе гміннай ухвалілі,
А ў павеце адмянілі.

Няма войта. Маўчыць рада
Ў пастарунку ўся улада.
Дык што-ж за правы цяпер, брат?
— Ці ня знаеш — *Самаўрад*!

Шкір—Ба.

## І малітва не паможа.

Ідзе дзедка з хаты ў хату
Просіць хлеба солі.
Ён для бедных і багатых
Моліць лепшай долі.

Вось так неяк ў мясаедзе
Ідзе дзядок к Апанасу,
А той дзеда як прыгледзе,
Прэць яму кілбасу:

— Маеш, дзедку, памаліся,
Каб мая дачушка, —
Найстарэйшая Марыся
Выйшла замуж хутка!

Дзед кілбаску прынімае
(Ох кілбаска слаўна!)
Апанаса ён пытае:
— Дзе дачка васпана?

— Вось за печай ля кудзелі
Калаўротам круціць.
Яны туды паглядзелі,
А дзед гэтак судзіць:

— Памаліцца гэта-ж можна
І тут і у хаце;
Ці малітва што-ж паможа
Мой ты мілы браце?!

Для такой я, брат, пасагу
Раджу пастарайся! —
Вось прымі маю увагу,
Здароў заставайся!..

Я. Б.

## У школе.

*Вучыцелька* (да малой Галі): Чаму ты ўчора ня была ў школе?

*Галя*: Бо мама была хворая і прынясла мне малога браточка!

*Вучыцелька*: Табе? Дык-жа гэта немагчыма, бо-ж твой бацька трэцці год ужо ў Амэрыцы.

*Галя*: Дык што з таго, што ў Амэрыцы, але штомесяц піша лісты да мамы.

*Р—а.*

## Дзікая баба.

Ахвіцэр са сваім дзяньшчыком (*салдат да ўслугаў*) пашлі на паляваньне. Як толькі ўвайшлі да лесу, дык міганула перад імі сарна. Ахвіцэр не пасьпеў, а дзяньшчыку нельга было страляць, пакуль уперш ахвіцэр ня выстраліць.

— Чаму-ж ты не страляў? — крыкнуў ахвіцэр.

— Я думаў, пане палкоўнік, што гэта свойская каза...

— Дурны! Усё што ў лесе, — дык усё дзікае!

Ідуць далей. Ажно дзяньшчык прыцэліўся .. бах! — і выстраліў, а пасьля штосьці ў гушчыне запішчэла й закрычэла. Ахвіцэр кінуўся туды.

— Што ты там! Хто гэта пішчыць?

— Дзікую бабу падстрэліў...— кажа дзяньшчык.

*Г. Л.*

## Пэўныя прыкметы.

Да карчмы ўходзе госьць. Гаспадар здалёку вітае яго:

— Добры дзень, Мікалаю; вас тут пыталася нейкая жанчына.

— А хто-ж такая?
— Ці-ж я ведаю!
— Заікалася можа?
— Але!
— Малая, крывыя абцасы?
— Але!
— Такая задрыпаная?...
— Але, так!
— І лаялася?
— Ага!
— Гэта, напэўна, мая жонка.

«Зиз».

### НАШЫ ЖАБРАКІ.

— Дайце, паночку, беднаму грошыка!

— Але! зараз толькі дай табе, дык ты ўраз у карчму.

— Не, паночку, я не ў карчме, а тутака на двары вып'ю.

### НА ЎСЁ ЁСЬЦЬ РАДА.

— Прабошчу даражэнькі! Бацька памёр, а нічагусенька не пакінуў. Няма за што хаўтуры спраўляць. Ці ня можна-б было як найтаньней?

— А колькі вас братоў?

— Васьмёх.

— Ну дык хай кожны брат зложыцца па 10 злотых, дык тады зусім танна будзе...

К. Сьвет...

## Баяцца.

— Чаму П. П. С. ня зьдзейсьньвае клічу, напісанага на яе штандары і ў пачатку яе партыйнага органу «Robotnik»: „Хай жыве работніча-сялянскі ўрад!“?

— Бо на гэта, пакуль што, не згаджаюцца вітосаўцы, вызваленцы, хадэкі...

— А чаму ня зьдзейсьньвае клічу: „Хай жыве соцыялізм!“?

— Ого! на гэта яшчэ не гатова міністэрства унутраных справаў...

## Замарыўся.

*Парабак*: Пане гаспадар, я страшна змучаны, не магу касьцей падняць.

*Гаспадар*: А гэта што за навіна?! Цэлую ноч спаў і хроп, як мядзьведзь.

*Парабак*: Э-гэ, вам гэта так здаецца, а мне сьнілася, што я дзьве капы змалаціў і салому павязаў, а цяпер трудна рукамі крануць, — гэтакі я змучаны.

## Натрапіў на свайго.

„Рэдактар“ „Беларускага Слова“ ў гутарцы з адным відным тутэйшым расейцам пытаецца:

— Как, по Вашему, зареагируют русские круги в Вильне на литовския проделки в Подгайском лесу? Мы ведь протестуем...

— Глупости все это, милый мой! — адказаў быўшы царскі камэргэр, — ерунда все эти споры поляков, литовцев, белоруссов... Придет Державный Хозяин, тогда!..

Паўлюкевічаўскі «рэдактар» падхапіў далейшую думку быўшага камэргэра з неапісальным смакам і, нізка яму кланяючыся, прашаптаў:

— У нас во Временном Совете или, как его по-мужицки зовут, «Часовай Радзе» хотя всего на всего... три человека, ваше превосходительство, но за то все мы точно так же, как и Вы, думаем...

### СТРОГАЯ ПАМЯТКА.

— Ціха! Ня крычы, бо яшчэ цешча...

— Твая цешча ўжо два месяцы як памёрла!

— А ў памяці стаіць, як жывая.

## А слаўся дык кя прыкмецілі.

На аднэй з нашых станцыяў недалёка ад граніцы вылез адзінокі пасажыр. Адразу яго акружылі тры ангелы-апякуны: жандар, паліцыянт і нехта ў чорным, якія пільна сачылі за прыбыўшым пасажырам, кожны пасвойму думаючы:

— Ці ж не камуністы гэта?

У гэтым часе падыйшоў да незнаёмага пасажыра яшчэ нехта, засунуў спрытна руку ў кішаню, забраў гадзіньнік і партфэль з грашмі і ўцёк, а...ангелы-апякуны ўсьцяж сачылі і сачылі за таемным пасажырам.

## На сходзе коопэратараў.

Провінцыяльны коопэратар, прыехаўшы на агульны гадавы сход коопэратыву ў Вільню, пытаецца ў аднаго з мясцовых сяброў:

— А што-ж гэта Адвардага Будзькі ня відаць?

— Перабраўся ў Варшаву, — адказвае той, — на эмэрытуру.

— Якую эмэрытуру? За што? З якога-ж гэта часу ў коопэрацыі завяліся эмэрытанты?

— Яно крыху як-бы й ня так з боку фармальнага, але фактычна, дык п. Будзька як быццам і эмэрытант. А за што, дык хіба-ж, сяброк, ведаеце...

— За ліквідацыю Цэнтральнага Саюзу Коопэратываў Віленшчыны? — згадвае провінцыял...

— Во, во! — падхапляе коопэратар з места.

### РОЗЬНІЦА.

— Слухай, Зьмітрук! Калі ты такі зух, дык скажы: Якая ёсьць розьніца паміж мужыком з жонкай і гарэхамі?

— Гм... розьніца, розьніца.. гм... такая, што я ня ведаю.

— Ну, дык вось слухай, розьніца такая: Гарэхі грызуцца толькі на Каляды, а мужык з жонкай грызуцца штодзень.

### ВЯЛІКАЯ ШЫШКА.

— Дык вы ня хочаце прыняць майго сына ў пяты аддзел?!

— Калі-ж ён яшчэ і літараў ня ведае...

— Але-ж ён мой сын, а я грамадзкі солтыс.

*Г—га.*







## Поэзія і проза.

*Ен:* Дакуль, скажы мне, так пакуты,
Ад вас я мушу ўсё цярпеці!..
Хутчэй бы *Гімэнэя путы*,
З табой хацелася-б надзеці!

*Яна:* Па мне—хоць зараз надзявайце,
Калі насіць іх вам так міла,
А я ня буду... выбачайце:
Вам трэба жонка ці кабыла!?

**Шкір—Ба.**

## Пара ўцяміць.

— Эх, братка, як тут жыць —
Ня жыцьце — смут, каго-ж вініць?—
Пытаў сусед Міхась, спаткаўшы раз Рыгора:
Ты быў на сходцы ўчора?
вецца не?— Ня быў я, не...
што? — Ого, каб ведаў як мяне
аш солтыс зухаваты
блаяў, а за што, дык цяжка і казаць...
бе няма, гляджу, а тыя ўсе маўчаць:
як-жа шляхціца зьняважыць? — пан, багаты!
Чакай, у чым-жа тут галоўна мэта справы?
— Ды ў тым, бач, прыгавар пісаці сталі —
Напрыклад, вось ля вёскі з збожжам лавы;
Платоў няма, дык каб сьвіней, авечак,
Ды іншай, там, жывёлы ня пушчалі.
Бо то-ж для нашага, вядома, брата
Сьвіньня парне лычом, глядзіш, табе ўжо страта.
Дык вось наш солтыс, зух, на покуці ўсьсеў,
Наўкола, так паважна, паглядзеў
І стаў пісаць.
Напіша — штосьць мяркуе, піша зноў,
Усе маўчаць —
А ён то карандаш грызе, то выняўшы з зубоў
Працягвае далей. Вось скончыў «грамацей».
А, братка мой, як стаў чытаць,
Аж злосьць апанавала, бадай цябе пярун!
Ўсё штосьці толькі *тэн* ды *тун*;
Каб слова зразумеў, адно ткі *пшэ* ды *пшы*.
— Ты, я кажу, пасвоему пішы,
У нашай роднай мове, што-ж будзе гэта з нас,
Дакуль так будзем жыць—уцяміць гэта час!
Даволі ціснуць нас вышэйшыя „чыны“,
А ўжо як, браце, прымуцца і гэткія паны —
Даволі, згінем!.. А мой ты браце,
Садом падняўся ў хаце.
Як бомкне солтыс: „Дык ты вун як!
Ды я це' кажа ў пастарунак!
Ты *знаш* мо' што табе за гэта будзе?
Вы вось слухайце людзі...
І ну тут, і давай, дык вось, братко, ўважай,
Як дурняў шмат яшчэ між намі,
Ды сьвет не за гарамі:
Калісьці блісьне кожнаму у вочы
Расьсее смут і цемру ночы
Уцяме й солтыс наш, ня трэ' будзе вучыць,
Каму павінен быў служыць.

**Міхась Васілёк.**

Рэдактар-выдавец **Янка Касяк**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня

Б 05/11384